
Мотальская Б. М.

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

# ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ CHURCH NEWS

BIELARUS AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH
**Published by Parish of St. Kiryla of Turau**
524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont., Canada, M6H 3W7. Tel. (416) 530-1025

Год 14. Каляды, 1995 2(53)

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу

Дарагія й Любасныя Браты й Сёстры!

Х Р Ы С Т О С Р О Д З І Ц Ц А !

«Але каліспоўніўся час, Бог паслаў Сына Свайго, Які нарадзіўся ад жанчыны, і хадзіў пад законам, каб адкупіць падзаконных, каб нам атрымаць ўсынаўленьне» (Гал.4:4-5).

Хрыстовае нараджэньне ня было выпадковым. Гэта выкананьне абяцаньня Божага. Хрыстос прыйшоў па доўгім часе прароцтва пра Ягоны прыход.Сьв. ап. Пётра кажа рымскаму сотніку: «Пра Яго ўсе пракрокі сьветчаць» (Дзеі 10:43). А калі мудрацы з Усходу запыталіся ў Ірада, дзе кароль Гэбрэйскі нарадзіўся, Ірад раіўся са сваімі старшынамі, якія сказалі яму: «У Бэтлееме Юдэйскім» (Мц. 2:5). Бо так пісалі прарокі. Калі прыйшла поўня часу «Бог паслаў Сына Свайго». Не прарока, не патрыярха, не сьвятара, не анёла зь нябёсаў, ані караля. Але Свайго ўласнага Сына. «Бог, Які шмат разоў і ўсялякімі спосабамі прамаўляў здаўна да бацькоў нашых праз пракрокаў, гэтымі апошнімі днямі прамовіў праз Сына Свайго, Якога ўстанавіў спадкаемцам усяго, празь Якога вякі стварыў» (Гэб. 1:1-2). Пэўна-ж, што ў гэтым прыгатаваньні праз пракрокаў Бог меў мэту, пра якую сьв. ап. Павал кажа: «Каб адкупіць тых, што пад законам». Выкупіць грэшнікаў ад засуджэньня на сьмерць. «Але ўсім тым, што прынялі Яго, даў ім права стацца дзяцьмі Божымі», гэтак тлумачыць ап. Ян (Ян :12). Выкупленьне дарагацэннай крывёй Ісуса Хрыста, чыніць іх «удзельнікамі Боскае прыроды», пацьвярджае апостал Пётра (2 Пёт. 1:4). А Сам Госпад кажа гэтак: «Бо Сын Чалавечы прыйшоў шукаць і ратаваць загінулых» (Лк. 9:10). Госпад прыйшоў, каб выратаваць. Ён зрабіў усё тое, каб мы маглі атрымаць назад тое месца ў сям'і Бога, якое мы страцілі праз свой грэх. Сьв. ап. Ян зьвяртае нашу ўвагу й кажа: «Глядзеце, якую любоў даў нам Айцец, каб нам называцца й быць дзяцьмі Божымі» (1 Ян 3:1). А Госпад кажа: «Я ўжо не назаваў вас нявольнікамі, бо нявольнік ня ведае, што робіць гаспадар ягоны, але Я вас назваў прыяцелямі, бо сказаў вам усё, што пачуў ад Айца Свайго» (Ян 15:15).

Дарагія мае Браты й Сёстры, нашу краіну, наш народ наведалі два вялікія няшчасьці. Адно — гэта выбух у 1986 годзе Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, які затруціў нашых народ і блізу ўсю тэрыторыю Беларусі. Гэта няшчасьце фізычнае: пагроза здароўю, калецтва, хваробы.

Але ёсьць і другое ня менш страшнае зьнішчэньне — гэта зьнішчэньне нашае мовы, гісторыі й культуры. Інакш кажучы зьнішчэньне нацыянальнае сьвядомасьці.

А цяпер наведала палітычная, яшчэ больш ядавітая пошасьць нашу радзіму — Беларусь.

А Сяргей Палуян на самім пачатку гэтага сталецьця, пісаў: «Не давалі табе расьці й разьвівацца. Воцатам чужой культуры зьвільжалі твае сьпячоныя смагай сьвету вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны так іхныя. Іх няма з табой. З самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці Цябе».

Словы Сяргея Палуяна, пасьля амаль ста гадоў яшчэ ўсё дзейсныя. Чужым ядам атручаныя сыны Беларусі сталіся здраднікамі свае краіны, ейнае незалежнасьці. Зьневажаюць сваю родную мову. Топчуць свае гістарычныя сымбалі.

Зьявілася новая ўлада, якая нішчыць тое, што ёсьць гістарычна беларускае, нішчыць нацыянальную гісторычную спадчыну. Нішчыць беларускую культуру, каб беларускі народ зноў не прачнуўся.

Але няхай ніхто ня думае, што мы слабыя. Сьв. ап. Павал кажа: «Бо сіла мая дасканаліцца ў кволасьці» (2Кар. 12:9). Наш народ перажыве сучасную пошасьць і нашая сьвятая мова зойме сваё месца ў сьвятыні, зацьвіце нашая культура, зазьзяе нашая гісторыя сваім сапраўдным сьвятлом, а народ наш Беларускі будзе жыць свабодна ў сваім краю, Сьвятой Беларусі.

Мова, культура ды само жыцьцё нашага народу, дарагія мае — гэта дар Божы. Таму паводле Божага закону мы маем поўнае маральнае права вярнуць сваю мову, гісторыю, культуру й незалежнасьць. Бог дапусьціў Шатана да справядлівага Ёва, каб Шатан пераканаўся, што Ёў сапраўды пабожны. Ці не выпрабоўвае Бог і нас вялікімі цяжкасьцямі, для збаўленнай місійнай працы?

Мы не павінны падаць духам, бо Бацькаўшчына наша «не памерла, яна сьпіць».

Няхай жа дзень Нараджэньня Хрыстовага будзе радасным сьвятам усім Вам і Божае дабраславеньне з усімі Вамі.

Хрыстос Радзіўся — Яго Слаўце!!!

Каляды 1995 г.
Таронта, Канада.

Архіяпіскап Мікалай
Першы Ярарх БАПЦ

# Сустрэча Япіскапа Мікалая з Архіяпіскапам Апанасам *

Пасьля паховінаў архіяпіскапа Сяргея Першага Ярарха БАПЦ, 16 лістапада 1971 году я наведаў архіяпіакапа Апанаса, беларуса, што знаходзіўся ў расейскай юрысдыкцыі Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы.

У панядзелак 15 лістапада 1971 году заехаў да К. Хаванскага, дзе я астанавіўся, сп. Мікалай Антух, блізкі сябра Хаванскіх. Ён рабіў добрае ўражаньне й ня быў вузкага погляду. Ён меў шмат знаёмых у Сыднею. Паколькі людзі з БНР Сыднею не маглі альбо не хацелі мне памагчы наладзіць спатканьне з архіяпіскапам Апанасам. Таму я зьвярнуўся да сп. М. Антуха, хмараўца. Папрасіў яго, каб ён зладзіў мне спатканьне з архіяпіскапам Апанасам. За пару гадзін мая візыта ў архіяпіскапа Апанаса была назначана на аўторак 16 лістапада 1971 г. на дзясятую гадзіну перад паўднём.

У аўторак 16 лістапада 1971 г.. Роўна на дзясятую гадзіну сп. Хаванскі прывёзь мяне да архіяпіскапа Апанаса, на адрас 92 Burlington, Homebush, N.S.W., 2140, Australia. Сп. Хаванскі застаўся ў аўце сваім, а я, падыйшоўшы да дзьвярэй, як толькі пазваніў, чую голас адзываецца па-беларуску; вітаю, вітаю. Мы прывіталіся пацалункам, як належыцца архірэям, І архіяпіскап Апанас запрасіў мяне да хаты. Гэта першы разь я спаткаўся з архіяпіскапам Апанасам у маім жыцьці. Апанас быў малога росту, але крыху вышэйшы за архіяпіскапа Андрэя (Крыта). Худы, аскетычнага выгляду, але рухлівы.

У гутарцы ўладыка Апанас некалькі разы падкрэсьліваў, што яму ўжо няма месца ў Расейскай Зарубежнай Царкве.

Думаю, што архіяпіскап Апанас сачыў за ходам нашае БАПЦ, таму ён ведаў й пра мяне. Пры нашым спатканьні ён з самага пачатку вельмі лёгка гутарыў па-беларуску. У гутарцы Апанас адкрыты й гэтым заваёўвае давер. Хоць ён стараўся сам гаварыць, але не пераладоўваўся, меў меру. Я гаварыў да яго ў хворме пытаньняў. Ці ён скемкаў у тым, што я стараўся даведацца ад яго якнайболей. А можа ён сам стараўся расказаць мне ўсё. З ягонай гутаркі даведаўся пра тое, пра што мала пісалася альбо зусім замоўчвалі. Таму мала хто ведаў пра гэта.

1). На захады й даносу на мітрапаліта Панцялеймана сп. Івана Касяка І айца Макалая Лапіцкага, каб адарваць яго ад людзей, немцы пасадзілі яго ў жаночы манастыр у Лядах, 25 км на поўнач ад Менску.

2). Архіяпіскап Філафей (Нарко) сам хацеў стаць на чале Беларускай Царквы, таму ахвотна памагаў у гэтым сп. Івану Касяку й ягонай «кампаніі» (слова архіяп. Апанаса — М.), адставіць мітрапаліта Паньцялеймана. Аднак, потым архіяпіскап Філафей абдумаўся й далей не пайшоў за сп. І. Касаком.

3). Калі сп. Іван Касяк адчуў, што ён ня выграе вайну зь мітрап. Паньцялейманам, тады ён разам зь іншымі пачаў прасіць архіяп. Філафея І архіяп. Апанаса, каб яны стараліся перад немцамі вярнуць мітрап. Паньцялеймана назад на ягонае становішча Галавы Царквы.

4). Хутка перад сваім зьліцьцём з Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквою, адбылося два Саборы Япіскапаў, Беларускай Праваслаўнай Царквы (БПЦ). На першым саборы было пастаўлена пытаньне; поўнае ўліцьцё беларускага япіскапату ў Расейскую Зарубежную Праваслаўную Царкву. На Саборы, апрача расейцаў, прысутнічала шэсьць япіскапаў БПЦ. Па гэтаму пытаньню беларускі япіскапат падзяліўся тры на тры: мітрап. Паньцялейман (Ражноўскі), Першы Ярарх БПЦ; архіяп. Бенедыкт (Бабкоўскі) І япіскап Сьцяпан (Сеўба) былі за прапановай, безь ніякіх засьцярогаў. А архіяп. Філафей (Нарко), Намесьнік Першага Ярарха БПЦ; япіскап Апанас (Мартос) І япіскап Ян (Лаўрыненка) былі за тым, каб затрымацца на статусе ў якім яны ёсьць, гэта застацца незалежнымі. Япіскап Павал (Мялецеў) ужо адыйшоў у вуніяцтва.

5). Па нейкім часе адбыўся другі сабор япіскапаў. На гэтым саборы, расейцы пайшлі на ўступкі й было пастаўлена пытаньне, крыху зьмененае; увайсьці ў Расейскую Зарубежную Праваслаўю Царкву з правам аўтаноміі беларускаму япіскапату. Япіскапы Філафей, Апанас І Ян гэтым разам здаліся, пайшлі за мітрап. Паньцялейманам.

6). Далучэньне беларускага япіскапату да Расейскае Зарубежнае Праваслаўнае Царквы было часовым І на аснове аўтаноміі. Дагаворана было, што ў беларускіх царкоўных справах толькі япіскапы зь беларускага япіскапату маюць права вырашаць самастойна.

7). Расейцы не датрымалі дагавору й каб перашкодзіць у дзейнасьці беларускаму япіскапату, расейцы пачалі назначаць беларускіх япіскапаў паводле сваіх меркаваньняў. У выніку чаго, амаль усе беларускія япіскапы аказаліся вікарнымі япіскапамі расейскіх япархіяльных япіскапаў. Гэткім чынам расейцы расьцярушылі беларускіх япіскапаў па ўсім расейскім зарубежжы. На вусны пратэст некаторых беларускіх япіскапаў расейцы не зьвярталі ўвагі.

8). Паводле дагавору, пасьля атрыманьня незалежнасьці Беларусі, беларускі япіскапат мае вярнуцца ў Беларусь І там ачоліць Беларускую Праваслаўную Царкву.

9). Япіскап Павал (Мялецеў) перайшоў у рыма-каталіцызм (вунію) І ў Бельгіі ў манастыры хутка памёр.

10). Архіяпіскап Пінскі Аляксандар (Іноземцаў) ніколі не пераходзіў у юрысдыкцыю Беларускай Праваслаўнай Царквы. Беларускі япіскапат яшчэ ў Менску, на пачатку 1944 году, запрапанаваў архіяпіскапу Аляксандру далучыцца да Беларускай Праваслаўнай Царквы, але ён адказаў, што ён напіша заяву, як толькі заедзе да Пінска й прышле. Так ён гэтую заяву й не напісаў. Гутаркі некаторых людзей пра тое, што архіяпіскап Аляксандар (Іноземцаў) быў у юрысдыкцыі Беларускай Праваслаўнай Царквы ня ёсьць праўдай.

11). Архіяпіскап Апанас мае на ўвазе ачоліць Беларускую Праваслаўную Царкву, але пад юрысдыкцыяй Канстантынопальскага Патрыярха. Пра гэта айцец Мікалай Лапіцкі ўжо стараецца ў Патрыярха Атэнагора Першага. Айцец М. Лапіцкі ўжо дабіўся ад Патрыярха на дазвол мець свайго япіскапа. Аднак з кандыдата архімандрыта Язэпа Строка, айцец М. Лапіцкі незадаволены. Ён хоча перацягнуць архіяпіскапа Апанаса.

12). Архіяпіскап Апанас спадзяецца, што ягоная справа выясьніцца ў наступным 1972 годзе ці Канстантынопальскі Патрыярх Атэнагор Першы згодзіцца прыняць яго ў сваю юрысдыкцыю.

13). Архіяпіскап Апанас выказаўся, што ён пяройдзе ў юрысдыкцыю Канстантынопальскага Патрыярха, толькі на аснове поўнай аўтаноміі Беларускай Праваслаўнай Царквы.

14). Архіяпіскап Апанас вызнае цяперашні япіскапат БАПЦ кананічным, а толькі царкву БАПЦ як такую не вызнае, бо яна не вызнана іншымі праваслаўнымі цэрквамі.

15). Архіяпіскап Апанас спадзяецца, што, калі ён ачоліць Беларускую Праваслаўную Царкву пад юрысдыкцыяй Канстантынопальскага Патрыярха, тады далучыцца да яго І БАПЦ. Я з свайбо боку пажадаў яму добрых вынікаў у ягоных пачынаньнях.

16). Архіяпіскап Апанас уважаў, што айцец М. Лапіцкі ня меў ўплыву на грэкаў І яны зь ім ня лічацца. На кожнае дамаганьне а. М. Лапіцкага, каб высьвяцілі яму япіскапа, грэкі адказвалі яму: «Вы маеце свайго япіскапа Уладыку Васіля (БАПЦ — М.) дык ідзеце да яго»..

17). Хоць Архіяпіскап Апанас не казаў гэтага, але можна было лёгка адчуць зь ягонай гутаркі, што ён ашчаджае прарафіі ў Банкстаўн І Сыдней для сябе. Дзеля гэтых меркаваньняў ён памагае гэтым парафіям адарвацца ад Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы.

18). Архіяпіскап Апанас жаліўся на цяёкасьці, якія спрычыняюць яму расейцы. Ён выказаўся, што расейскі япіскапат Расейскае Зарубежнае Праваслаўнае Царквы забараніў яму служыць у Аўстрлійскай Япархіі І ён ўжо празь нейкі час зусім ня служыць.

19). Архіяпіскап Апанас казаў, што Расейскі Сынод Расейскае Зарубежнае Праваслаўнае Царквы назначыў яго назад на

Аргентынскую Япархію супраць ягонай волі й што ён паслухаецца гэтаму загаду. Уладыка казаў, ён паедзе ў Аргентыну, але не на доўга й вернецца назад, бо ён ёсьць аўстралійскім грамадзянінам.

20). Архіяпіскап Апанас наўмысна выдаў адпускную грамату айцу Беняміну, кіраўнічаму парафіі ў Банкстаўн. Даведаўшыся пра адпускную грамату выданую архіяп. Апанасам, кіраўнічы япіскап, Расейскае Зарубежнае Праваслаўнае Царквы ў Аўстраліі, Архіяпіскап Сава, задняй датай, забараніў айцу Беняміну ў служэньні. Айцец Бенямін не паслухаўся гэтай забароны, бо, паводле архіяпіскапа Апанаса, яна была кананічнай.

Вельмі лёгка было гутарыць з архіяп. Апанасам, бо ён добра ведаў, што значыць юрысдыкцыя, каноны й правільна іх разумеў. Я не магу сказаць таго, што архіяп. Апанас выявіўся беларускім патрыётам, каб мог пасьвяціць самога сябе для свайго беларускага народу. Ён выяўляў любоў да свайго народу й гатовы яму служыць, але ў яго не паказвалася адданасьці й пасьвяты для вызваленьня Беларусі.

* **Выпіска зь дзёньніка паездкі япіскапа Макалая ў Аустралію на паховіны архіяп. Сяргея Першага Ярарха БАПЦ у 1971 годзе**.

## СПРОБЫ ПАГАДНЕНЬНЯ НЕЗЛАГАДЗІ

16 кастрычніка 1993 году былі разважаньні на нарадзе Рады БАПЦ у Кліўляндзе адносна непаразуменьня ды судовых спраў у БАПЦ. У выніку дыскусыяў было пастанолена прабаваць дайсьці да паразуменьня. У ходзе шуканьня спосабу паразуменьня, дня 3 жнівеня 1995 году сп. Мікола Ганько й сп. Барыс Данілюк мелі сустрэчу ды абмяркоўвалі справу пагадненьня. Абодва бакі дагаварыліся, што кожны бок вышле сваю прапанову адзін аднаму.

На аснове гэтага дамоўленьня сп. М. Ганько ў паразуменьні зь Мітрапалітам Мікалаем, выслаў сп. Б. Данілюку прапанову наступнага зьместу:

*«Згодна з пастановаю Рады БАПЦарквы пад кіраўніцтвам Мітрапаліта Мікалая І апіраючыся на вышэй сказаным І на размовах, што адбыліся 3-га жніўня 1995 г. паміж сп. Барысом Данілюком І сп. Міколам Ганько прапануем наступна:*

1. *Пакінуць у забыцьцё ўсё, што здарылася ў мінулым, бо таго назад вярнуць нелга.*
2. *Спыніць усе судовыя працэсы справах БАПЦарквы.*
3. *Цяперашні падзел БАПЦарквы лічыць, як падзел БАПЦарквы на Япархіі.*
4. *Япіскапы, якія цяпер ачольваюць свае часткі БАПЦарквы ўважаюцца, як кіруючыя Япіскапы Япархіяў.*
5. *Абедзьве Япархіі БАПЦарквы вызначаць сваіх прадстаўнікоў, якія будуць мець паўнамоцтвы ад сваіх Япіскапаў на вядзеньне перамоваў у справах канчатковай ліквідацыі непаразуменьняў у БАПЦаркве.*

*Далейшыя канкрэтныя прапановы будуць апрацаваныя й пададзеныя пад развагу Япархіям дзеля канчатковай ліквідацыі нязгоды ў БАПЦаркве.*

*Уласнаручны подпіс*
*Мікола Ганько*
*Упаўнаважаны Мітрапаліта Мікалая*

*Торонто, 8-га жніўня 1995 г.*

Сп. Барыс Данілюк паважна не аднёсься да справы паяднаньня, ён напісаў «паведамленьне», якое ніякіх адносін да прапановы высланае яму сп. М. Ганьком ня мае. Нават тое «паведамленьне» сп. Барыс Данілюк ня прыслаў беспасярэдня сп. М. Ганько, зь якім меў перамовы ў справе пагадненьня. А зьмясьціў сваё «Паведамленьне» ў сваім «Царкоўны Пасланец», кастрычнік, 1995 з вывернутым зьместам. Гэта сьветчыць пра непаважныя адносіны другога боку. Аднак да сур'ёзных перамоваў мы надалей гатовыя. Калі другі бок адкіне сваё **Я**, а паставіць на першае месца дабро БАПЦ І дабро беларускай справы, тады можна будзе аднавіць дыялёг перагавораў паяднаньня.

## МАСКОЎСКАЯ ПАТРЫЯРХІЯ

### Маскоўскі Патрыярхат надалей выяўляе расейскі імперыялізм

Як падае The Herald (за Orthodox News, Denver), што дванаццац з пятнаццаці Праваслаўных Цэркваў сьвету ўдзелнічалі на Праваслаўным Міжнародным Сымпозыюм асяродзьдзя (Environmental)

Гэты сымпозіюм склікаў Усяленскі Патрыярх Барталамей Першы.

Расейскі патрыярх адмовіўся ўзяць удзел у гэтым сымпозіум выказваючы вялікае незадавальненьне дзейнасьцю Ўсяленскага Патрыярха.

Расейскі Патрыярх, паклікаючыся на ягоную розьніцу ў справе Эстонскай Праваслаўнай Царквы, якую Ўсяленскі Патрыярх узяў пад сваю апеку, бо эстонцы хочуць адарвацца ад расейскай царквы і таксама ў справе украінскай дыяспоры. Бо Украінская Праваслаўная Царква ў ЗША І Украінская Праваслаўная Царква ў Канадзе падыйшлі пад амафор Усяленскага Патрыярха.

Украінскія цэрквы ў ЗША І Канадзе ніколі ня былі ў складзе расейскіх царкваў, якіх ёсьць некалькі. Яны зарганізаваліся самастойна ў Канадзе й ЗША, з былых украінскіх вуніятаў з Галіччыны. Але апетыт расейскага імперыялізму не канчаецца на царкоўных справах, а сягае І на людзей украінцаў І беларусаў.

Расейцы, ад даўжэйшага часу, намагаюцца адабраць ад Канстантынопальскага Птрыярха, а самім стацца выказьнікам Усяленскай Праваслаўнай Царквы. Хочуць стацца й стараюцца зьдзейсьніць страрыя мроі быць **Трэцім Рымам**.

Дарагія Браты й Сёстры!

Найпачасьнейшы Мітрапаліт Мікалай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Торонто перасылае Вам найшчырэйшыя пажаданьні з нагоды Калядніх сьвятаў і Новага Году. Хай нованароджанае Дзіцятка Божае мае Вас у Сваёй апецы і пашле Вам многа здароўя, сямейнага шчасьця, дабрабыту і дабраславенства Госпадавага ў Вашым жыцьці.

Dear Brethren and Sisters!

Metropolitan Mikalay of the Belarusan Autocephalous Orthodox Church, Parish of St. Kiryla of Turau in Toronto are sending you a greetings for the Christmas and New Year season. May the newborn Jesus Christ have you in his protection and send you good health and prosperity in New 1996 Year, family bliss and Gods blessing in your life.

## Парадак Багаслужбаў на Раство Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Субота, | 6-га студзеня 1996 | Куцьця | 5-я гадз. вечара | Вялікая Вячорня |
| Нядзеля, | 7-га студзеня 1996 | КАЛЯДЫ ! | 10-я гадз. рана | ЛІТУРГІЯ |
| Нядзеля, | 14-га студзеня 1996 | Новы Год | 10-я гадз. рана | ЛІТУРГІЯ |
| Чацьвер, | 18-га студзеня 1996 | | 5-я гадз. вечара | Вялікае Павячоре |
| Пятніца, | 19-га студзеня 1996 | ВАДОХРЫШЧА | 10-я гадз. рана | ЛІТУРГІЯ і Асьвячэньне вады. |

## РАСКЛАД ВІЗЫТАЎ УЛАДЫКІ МІКАЛАЯ СА СЬВ. ВАДОЙ

| | | |
|---|---|---|
| Пятніца, | 19-га студзеня 1996 | Toronto East and Richmond Hill. |
| Субота, | 20-га студзеня 1996 | Oshawa. |
| Панядзелак, | 22-га студзеня 1996 | Kingston, Belleville. |
| Аўторак, | 23-га студзеня 1996 | Toronto Central. |
| Серада, | 24-га студзеня 1996 | Toronto Central. |
| Чацьвер, | 25-га студзеня 1996 | London, Stratford, Guelph, Cambridge. |
| Пятніца, | 26-га студзеня 1996 | Hamilton, Niagara Falls. |
| Субота, | 27-га студзеня 1996 | Toronto West. |
| Панядзелак, | 29-га студзеня 1996 | Oakville. |
| Серада, | 31-га студзеня 1996 | Midland, Barry, Mansfield. |

Усе даты ёсьць умоўныя. бо з незалежных ад нас прычынаў могуць зайсьці зьмены, за што просім выбачэньня. Асабліва мясцовасьці далейшыя ад Торонта могуць быць найбольш закранутыя.

Мітрапаліт Мікалай.

## SCHEDULE OF CHURCH SERVICES FOR CHRISTMAS SEASON

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Saturday,** | **January 6, 1996** | | **6 p.m.** | **Vespers** |
| **Sunday,** | **January 7, 1996** | **Christmas** | **10 a.m.** | **Holy Mass** |
| **Sunday,** | **January 14, 1996** | **New Year** | **10 a.m.** | **Holy Mass** |
| **Thursday,** | **January 18, 1996** | | **5 p.m.** | **Vespers** |
| **Friday,** | **January 19, 1996** | **Epiphany** | **10 a.m.** | **Holy Mass** |

## SCHEDULE OF VISITS OF ARCHBISHOP MIKALAY WITH HOLY WATER

| | | |
|---|---|---|
| **Friday,** | **January 19, 1996** | **East Toronto and Richmond Hill.** |
| **Saturday,** | **January 20, 1996** | **Oshawa.** |
| **Monday,** | **January 22, 1996** | **Kingston, Peterborough.** |
| **Thuesday,** | **January 23, 1996** | **Central Toronto.** |
| **Wednesday,** | **January 24, 1996** | **Central Toronto.** |
| **Thursday,** | **January 25, 1996** | **London, Stratford, Guelph, Cambridge.** |
| **Friday,** | **January 26, 1996** | **Hamilton, Niagara Falls.** |
| **Saturdday,** | **January 27, 1996** | **West Toronto.** |
| **Monday,** | **January 29, 1996** | **Oakville.** |
| **Wednesday,** | **January 31, 1996** | **Midland, Barry, Mansfield.** |

**All dates are tentative. In some circumstances for reasons beyond our control changes may be necessary, for which we ask your forgiveness.**

**Metropolitan Mikalay.**